НОВЫЯ ІМЁНЫ

## Балеем за Надзю!

*На Міжнародным дзіцячым конкурсе песні «Еўрабачанне», які пройдзе 15 лістапада на Мальце, Беларусь прадставіць Надзея Місякова з песняй «Сокал».*



Юнай артыстцы 14 гадоў. Яна нарадзілася і жыве ў Мінску. Вакалам займаецца ў ансамблі "Заранак". Надзея любіць творчасць Ланы Дэль Рэй. Акрамя заняткаў музыкай любіць танцаваць і складаць вершы.

Словы і музыку да сваёй конкурснай песні Надзея напісала сама. Аранжыроўку трэка дапамог зрабіць беларускі спявак Юзары.

Беларусь удзельнічае ў міжнародным дзіцячым конкурсе з моманту яго заснавання — 2003. Першай удзельніцай была **Вольга Сацюк**. На рахунку краіны — дзве перамогі: у 2005 годзе конкурс выйграла **Ксенія Сітнік** з песняй "Мы разам", у 2007-м — **Аляксей Жыгалковіч** з кампазіцыяй "З сябрамі". У мінулым годзе **Ілья Волкаў** з песняй "Спявай са мной" заняў трэцяе прызавое месца.

**Вера ВІР.**

ТЕНДЕНЦИИ

## Каждый седьмой белорус некомфортно чувствует себя на работе

*Исследовательский центр HeadHunter Беларусь провел опрос среди 1196 человек и выяснил, что каждый седьмой белорус не чувствует себе комфортно на рабочем месте.*

*"Основная причина дискомфорта — слишком высокая или, наоборот, слишком низкая температура в офисе. Вторая по распространенности причина — большое количество людей, работающих в одном помещении. В последнее время все большую популярность приобретают офисы формата open space. И, несмотря на то, что подобное планирование рабочего пространства имеет ряд преимуществ, люди не всегда чувствуют себя уютно. В таких офисах, как правило, более шумно, особенно если специалисты вынуждены постоянно общаться с клиентами и партнерами, вести телефонные переговоры. Слишком тесные офисы, непривлекательный интерьер и неудобная мебель также не благоприятствуют трудоспособности сотрудников",* — комментирует Светлана Шапорова, директор HeadHunter Беларусь.

По результатам опроса полностью довольна своим рабочим местом лишь четверть белорусов. Для того чтобы создать благоприятную атмосферу, многие сотрудники обустраивают свое рабочее пространство личными вещами, так как это поднимает настроение и благоприятно сказывается на продуктивности труда.

СЛЫШАЛИ?

## «Беларусбанк» пишет сказки для детей

*Так работники банка стараются обучить маленьких белорусов азам финансовой грамотности.*

*"Наши сотрудники активно работают с подрастающим поколением в детских садах и школах. Они даже пишут сказки и готовят сценические постановки. Словом, делают все возможное, чтобы донести до подрастающего поколения простым и понятным языком необходимость получения финансовых знаний",* — сказала замначальника управления клиентского мониторинга, руководитель группы по повышению финансовой грамотности населения **Наталия Корбут.**

ПОДИУМ

## Белоруска — самая гламурная!

*Наталья Трофимова признана самой гламурной участницей конкурса красоты "Миссис Вселенная-2014", который проходил в столице Малайзии Куала Лумпур.*

Первоначально на конкурс должна была поехать "Миссис Беларусь" **Юлия Перегудова**, однако по семейным обстоятельствам ей пришлось отложить поездку. По условиям конкурса страна могла лишиться права делегировать свою представительницу на следующий год, поэтому международное жюри пригласило выступить участницу от Беларуси 2012 года — **Наталью Трофимову.**

Всего за победу боролись 40 красавиц. Новой "Миссис Вселенной" стала американка **Сабрина Пинион**, второе место заняла **Робин Моррисон** из Великобритании, третьей стала россиянка **Екатерина Плотко**.

Наталья Трофимова призналась, что выступать без подготовки было тяжеловато. Тем не менее она достойно представила страну, получив титул самой гламурной участницы — "Mrs Glamorous" — и призы от спонсоров.

Наталье Трофимовой 37 лет. Она успешный адвокат (юридический стаж работы более 15 лет) и общественный деятель. Воспитывает 13-летнего сына Андрея.

*"В Минск из Малайзии я везу очень интересные предложения по улучшению инвестиционного климата в Беларуси*, — цитирует Наталью belta.by. *— Мой доклад про нашу страну вызвал желание у малазийских бизнесменов поближе познакомиться с нашей страной".*




### Для справки

*Конкурс "Миссис Вселенная" проводится каждый год. В нем участвуют женщины, добившиеся успеха в семейной, личной жизни и карьере. Основная цель форума — привлечь внимание к проблеме насилия в отношении женщин по всему миру. Красота не играет главной роли при выборе победительницы. Для жюри важнее убеждения конкурсанток, их жизненная позиция и личные достижения в сфере просвещения и нравственного развития населения.*

*В 2013 году титул "Mrs. Universe LTD" ("Миссис Вселенная") увезла белоруска **Светлана Кузнецова** — победительница первого национального конкурса "Мисс Беларусь-98", а телеведущая **Ирина Хануник-Ромбальская** завоевала титул "Mrs.Supermodel - 2011" ("Миссис Супермодель").*

КРЫМІНАЛ

## Яны білі шыбы і фары аўтамабіляў

*Пра наступствы не задумваліся*

Міліцыя затрымала падазроных у аўтапагроме ў Маладзечне. Хлопцаў падазраюць у пашкоджанні больш як 30 аўтамабіляў.

Хлопцы зусім маладыя — ім 19 і 21 год. Яны часова пражывалі ў Маладзечне і працавалі аздабляльнікамі ў будаўнічых фірмах. Яны ўжо далі прызнальныя паказанні.

Як высветлілася, нядаўна ў аднаго з прыяцеляў быў дзень нараджэння. Добра падвыпіўшы, сябры вырашылі пакуражыцца. На працягу больш як дзвюх гадзін яны білі шыбы і фары аўтамабіляў, скакалі па капотах і дахах. Па словах хуліганаў, пра наступствы яны не задумваліся. Сума нанесенай хуліганамі шкоды ўсё яшчэ ўдакладняецца, аднак відавочна, што яна пераваліць за 100 мільёнаў рублёў.

Нагадаем, што здарэнне адбылося ў ноч з 25 на 26 жніўня ў Маладзечне. Маладзечанскі райаддзел Следчага камітэта пачаў крымінальную справу па хуліганстве.

БЫЛЬ

*Вячаслаў ВОЛЬСКІ*

# Сексот



Павел Іванавіч штосьці затрымаўся дома і на дачу паехаў апоўдні. У такі час у электрычцы было мала народу. Ён сеў на першай лаўцы за дзвярыма і ўткнуўся ў газету. Калі да адпраўлення цягніка засталося хвілін пяць, у вагон зайшла пажылая кабета. Яна была па-старамоднаму апранута ва ўсё самаробнае і рознакаляровае вязанне з вышыўкамі і, нягледзячы на спякотны дзень, зашпілена на ўсе гузікі сваёй дзівоснай кофты і такой жа размаляванай камізэлькі. Жанчына неяк нясмела агледзелася па баках, выбіраючы сабе места, пакуль не спынілася на свабоднай лаўцы насупраць Паўла Іванавіча.

— Тут не занята? — спытала яна ціхім голасам.

— Сядайце, калі ласка, — адказаў Павел Іванавіч.

Кабета прытулілася да акна і прыціхла. Тым часам электрычка зрушыла з месца, і Павел Іванавіч зноў заняўся сваёй газетай. Аднак яго думкі раз-пораз збіваліся на выпадковую спадарожніцу. "Яна едзе з горада, пэўна, на дачу, — разважаў Павел Іванавіч. — Але з выгляду такая вясковая і сціплая, якія раней сустракаліся толькі на адзінокіх хутарах". І тут яму падумалася, што ўсё ж зрэдку трапляюцца такія кабеты, якіх лёс яшчэ ў маладосці закінуў у вялікі горад, але яны як жылі вясковым укладам, так і працягваюць жыць, горад на іх аніяк не ўздзейнічае. Увогуле яны існуюць паралельна — ніхто нікому не пераходзіць дарогу, ніхто нікому не замінае.

Пэўна, на трэцім прыпынку штосьці здарылася з сувяззю, бо машыніст спачатку прахрыпеў у мікрафон нешта няўцямнае, а потым і наогул заглух. І тут суседка Паўла Іванавіча захвалявалася. Яна адвярнулася ад акна і стала азірацца вакол, нібы шукала сабе дапамогу, аднак Паўла Іванавіча турбаваць не адважвалася. Той сам заўважыў гэтае хваляванне і прапанаваў свае паслугі:

— Вас непакоіць, што машыніст перастаў аб'яўляць прыпынкі? — спытаўся ён.

— Так, так, на самай справе, — здзіўлена зірнула кабета на Паўла Іванавіча.

— Не хвалюйцеся, на гэтай лініі я ведаю амаль што ўсе. Назавіце станцыю, і я скажу, дзе вам выходзіць.

Спадарожніца абрадавалася такой увазе суседа да яе і назвала свой прыпынак. І тут Павел Іванавіч яе зусім супакоіў, бо і сам ехаў да таго ж месца. Але цяпер яго ўжо зацікавіла, да каго ж яна едзе ў іх дачны пасёлак, бо амаль усіх старажылаў ён ведаў, а яе ніколі раней не сустракаў.

— Прабачце, — сумелася кабета, — я нават і не ведаю, як вам адказаць. Увогуле, тут дача майго мужа, з якім мы нібы ў разводзе, — пры гэтай фразе кабета так засаромелася, што нават пачырванела і, памаўчаўшы, дадала: — Была я тут разы два і то так даўно, што і не памятаю, як цяпер яе знайсці.

Такі адказ яшчэ больш здзівіў і заінтрыгаваў Паўла Іванавіча, бо ён ведаў розныя сем'і: і такія, што жылі дружна і ў згодзе, і такія, што пасля доўгіх спрэчак і скандалаў ставілі крыж на ранейшых адносінах. Толькі вось пра такія, што былі нібы ў разводзе, ды яшчэ з былым мужам, чуў упершыню. І тут кабета сама паспяшалася неяк выправіць гэтую сваю неакрэсленую фразу і пачала тлумачыць Паўлу Іванавічу сваё сямейнае становішча.

— Даўно тое было, — з нейкім маркотным выглядам загаварыла яна. — Сышліся мы яшчэ перад вайною, дакладней, у год вялікага хапуна. Ужо тады ў нас з Кір'янам усё пачыналася не па-людску. Неяк на вячорках ён да мяне прычапіўся. "Пагаварыць трэба, давай выйдзем", — прабубніў ён, насупіўшыся, з нейкімі пагрозлівымі ноткамі ў голасе. А я ў той час наогул пазбягала сустрэч з ім, бо ў нашай сям'і і ва ўсёй вёсцы за сям'ёй Кір'яна цягнулася слава лайдакоў і галадранцаў. З імі — а ў іх сям'і пяць хлопцаў і адна дачка — было сорамна і сустракацца, і нават вітацца. А мой старэйшы брат Арцём, прыкмеціўшы, што Кір'ян да мяне заляцаецца, увогуле забараніў яму да мяне падыходзіць.

— Ну, а як вы да гэтага ставіліся? — спытаў Павел Іванавіч.

— На той мой дзявочы розум мне было нават цікава. Уяўляеце: хлапец не дае мне праходу, а брат яго адганяе. Часам шкадавала Кір'яна, заўважала, як ён марнуецца і баіцца Арцёма. Арцём быў старэйшы і ладны хлопец, а Кір'ян ні тое ні сёе і вельмі кволы. Таму ў душы ніякага пачуцця да Кір'яна я не адчувала. З аднаго боку, было прыкра і агідна — з сям'і галадранцаў. А з другога — неяк шкада, ужо вельмі па мне сох. У той вечар я выйшла з ім за аколіцу. Ён доўга сунуўся моўчкі, быў нейкі ўстрывожаны, усё азіраўся па баках. Нарэшце загаварыў хвалюючыся:

— Паслухай, Каця, я хачу цябе выратаваць...

— Ад чаго? — здзівілася я.

— Ад бяды.

— Ад якой бяды? Пра што ты вярзеш?

— Ад той бяды, якая навісла над вашай сям'ёй... Заўтра вас будуць раскулачваць і высяляць...

— Хто табе пра гэта сказаў? — цяпер ужо я ўстрывожылася, бо гэта быў не першы выпадак у нашай вёсцы. Раней выслалі на Салаўкі пяць сем'яў.

— Учора я быў у раёне, карацей — у адным месцы. Там мне знаёмы начальнік паказаў спісы, каго будуць высяляць. У тым спісе і ваша сям'я...

Маё сэрца так затахкала, што здалося — яно выскачыць з грудзей. Больш за ўсё мяне ўстрывожыла тое, што мая маці была цяжка хворая і некалькі тыдняў не ўставала з ложка. І што ж цяпер будзе з ёю і з усімі намі: бацькам, братам і мною? Я памкнулася бегчы дадому, але Кір'ян учапіўся за мой рукаў:

— Пачакай, я цябе выратую, — хрыпеў ён. — Ты схаваешся ў нас, пасядзіш на гарышчы дні два-тры, пакуль скончыцца высяленне, і потым вернешся дадому. У нас цябе ніхто не дадумаецца шукаць, бо ўсе ж нас ведаюць — мы бедняки. А пасля пра цябе ніхто і не ўспомніць з начальнікаў, тыя, хто будзе раскулачваць, з'едуць у раён. І нікому да цябе не будзе справы.

— А маці? Мая хворая маці? Хіба ж я магу яе пакінуць? — вырываючыся з Кір'янавых лап, цяпер ужо слязьмі аблівалася я. А ён не адпускаў, штосьці чоўп наконт таго, што калі ўсё супакоіцца, дык мы ажэнімся. Гэта мяне яшчэ больш разззлавала. Тут такая бяда, а ён пра жаніцьбу. І я, што было моцы, рванулася з яго кіпцюроў і пабегла дадому. Толькі каля веснічак схамянулася: хусткай выцерла слёзы, стараючыся супакоіцца і нешта прыдумаць, як перадаць маці пра гэта гора, якое на нас заўтра абрынецца. Сказаць праўду, што мяне папярэдзіў Кір'ян, я не магла, бо яго ў нашым доме і так ненавідзелі. А што б было цяпер, я нават і не ўяўляла. Брат мог яго проста прыдушыць. Таму я вырашыла спаслацца на чуткі на вячорках, не называючы ніякіх імёнаў. Маўляў, дзяўчаты шапталіся пра тры сям'і: нашу, Пархімчыкаў і Забродскіх.

У сенцах я сутыкнулася з бацькам, і на душы ў мяне неяк адлягло: мільганула думка паведаміць пра ўсё яму, а ён ужо сам няхай вырашае, як перадаць маці гэтую невыносную чутку. Так і зрабіла: тут жа ў сенцах, бо ў хаце нас магла падслухаць і ўстрывожыцца маці. У канцы майго блытанага і ўсхваляванага расказа твар бацькі яшчэ больш спахмурнеў, зрабіўся нават зямліста-чорным. Ён неяк у роспачы махнуў рукою, выйшаў на двор і доўга там недзе корпаўся, пэўна, без усялякай мэты, відаць, каб неяк прыглушыць душэўнае ўзрушэнне. Словам, у тую ноч наша сям'я не звяла вачэй.

Раніцай у вёсцы паявіліся нейкія людзі ў скураных куртках, а таксама старшыня сельскага Савета і двое міліцыянтаў. Праз паўгадзіны ўвесь гэты натоўп заявіўся на наш падворак. Адзін з міліцыянтаў зайшоў у хату і пагрозліва буркнуў брату і бацьку, каб яны ішлі за ім на двор, куды ўжо прывялі і панятых — Кур'янавага бацьку і суседа Панкрата. У нас пачаўся вобыск. Чаго шукалі гэтыя чужыя людзі, я не ведала. Потым, у другой палове дня, калі на брыгадны стан сагналі ўсіх вяскоўцаў, ім абвясцілі загад, што нашу сям'ю высяляюць як ворагаў народа, бо ў нашым хляве ў страсе быў знойдзены абрэз, з якім нібыта Арцём удзельнічаў у нейкай антысавецкай бандзе. Дзве іншыя сям'і проста раскулачвалі і таксама высялялі на тыя далёкія і невядомыя Салаўкі.

Нашу хворую маці мы давезлі толькі да месца збору ўсіх раскулачаных у раёне. Там нас марнавалі некалькі дзён. Тады Арцём сустрэў нейкага знаёмага міліцыянта і ўпрасіў яго дазволіць мне застацца разам з маці ў яе апошнюю гадзіну, бо яна ўжо была пры смерці, калі абоз рушыў у далейшы шлях. Пахаваць маці мне дапамаглі чужыя людзі. Пасля батрачыла, здаралася, прасіла міласціну. Толькі праз паўгода вярнулася ў сваю вёску. У нашай хаце ўжо быў новы гаспадар — Кір'янаў бацька са сваёй вялікай сям'ёю, а мне адвялі закутак у іх старой хаціне. Ды яшчэ прыгразілі, каб я нікуды не высоўвалася і не трапляла на вочы начальству, бо зноў адправяць з чарговым этапам у Сібір. Страху я тады нацярпелася! Як перажыла тое ліха, адзін Бог святы ведае.

Кабета насоўкай выцерла слёзы, што накаціліся на яе вочы, і на хвіліну сціхла.

Павел Іванавіч слухаў гэты сумны расказ выпадковай спадарожніцы, а сам міжволі думаў пра тое, якія страшэнныя выпрабаванні падкідвае лёс самым, на першы погляд, звычайным, самым сціплым людзям. Ну ніколі ён не даў бы веры, калі б спаткаў дзесьці на вуліцы гэтую з выгляду патрыярхальную жанчыну, што ў яе жыцці былі такія хваляванні і пакуты.

А тым часам кабета супакоілася і працягвала далей:

— Калі Кір'ян адслужыў у войску і вярнуўся да бацькоў, ён зноў стаў чапляцца да мяне, угаворваць, каб я выйшла за яго замуж. Я ж памятала, як да Кір'яна ставіліся ў нашай сям'і, а брат проста разы два выганяў яго з хаты, дык я пад рознымі адгаворкамі адцягвала сваю згоду. Да таго ж у маёй галаве глыбока засела апошняя мая размова з Арцёмам у месцы збору высяленцаў. Тады ён мне сказаў на развітанне: "Калі вернешся дадому, дык беражыся Кір'яна".

І ўсё ж Кір'ян не даваў мне праходу, а пасля, калі адчуў, што я стала яго пазбягаць, аднойчы ноччу ўваліўся да мяне п'яны і стаў пагражаць, што заўтра ж напіша допіс у раённае ЧК, што я дачка ворага народа і што я ўцякла з этапа, і мяне ўвогуле сашлюць на Калыму...

— А што ж суседзі ды наогул вяскоўцы? Хіба ж яны не маглі за вас заступіцца? — падаў голас Павел Іванавіч.

— У вёсцы за мяне ніхто не жадаў заступацца, а некаторыя нават асуджалі, што я з кулацкай сям'і пагарджаю гаротным бедняком Кір'янам. Словам, выйсця я не знаходзіла, хоць доўгімі начамі і не спала і галава мая была забіта рознымі думкамі.

На Каляды нас ажанілі. Мы сталі жыць у той жа старэнькай хатцы яго бацькоў. Але цяпер ужо я павінна была працаваць на іх вялікую сям'ю ў гаспадарцы, якая яшчэ нядаўна была нашай. Кола замкнулася. Колькі слёз я праліла на тых родных пожнях, якія для мяне былі ўжо абрыдлымі і чужымі!

Пасля вайны мы пераехалі ў горад. Кір'ян уладкаваўся ў нейкай канторы, а я на птушкафабрыцы. У нас ужо было двое дзяцей: дачка і сын. Выдзелілі нам двухпакаёвую кватэру ў старым доме. Аднойчы на добрым падпітку Кір'ян выхваляўся перада мною, што ўсё гэта ён заслужыў у нейкіх органах, якія трымаюць уладу і ў якіх яго вельмі паважаюць і цэняць. Мы ўжо сталі абжывацца.

А пад восень у той год, калі сканаў Сталін, з ссылкі нечакана вярнуўся Арцём. Кароткая радасць ад такога спаткання з братам скончылася для мяне новай бядою. Амаль з парога Арцём каршуном накінуўся на Кір'яна: "А ну давай выкладвай, як ты, чэкісцкі сексот, справадзіў нашу сям'ю на Салаўкі? Як ты мяне з бацькам зрабіў ворагамі народа? Як ты нам у страху падсунуў іржавы абрэз, а потым накрэмзаў допіс у ЧК? Ну, чаго маўчыш? Што, мову адняло?"

Кір'ян стаў белы, як нябожчык. Рукі яго дрыжалі, і ўвесь ён калаціўся, як у ліхаманцы. І раптам ён упаў перад Арцёмам на калені і пачаў неяк па-сабачы скуголіць і прасіць у брата літасці. А я стаяла ў разгубленасці і не ведала, што рабіць: як іх развесці, каб не здарылася чаго-небудзь страшнага... Бо пра нейкае прымірэнне тут нават і думкі не ўзнікала. Я добра ведала свайго брата і тую агіду, якую ў яго і раней выклікаў Кір'ян. А тут такое!.. Божачка ты мой!..

Арцём схапіў Кір'яна за каўнер кашулі і выцягнуў за дзверы. Там на лесвіцы была яшчэ нейкая валтузня, а потым Арцём вярнуўся адзін... Доўга ён тады расказваў, чаго яны нацярпеліся з бацькам на тых Салаўках, а пасля і на Балтыйскім канале, дзе бацька хутка памёр. Там у балоце і пахаваў яго Арцём...

Павел Іванавіч заўважыў, як затуманіліся слязьмі вочы кабеты, наступіла працяглае маўчанне, пакуль яна збіралася з думкамі.

— Пасля таго скандалу Кір'ян вярнуўся ў вёску да сястры. А Арцём ніяк не мог уладкавацца на работу, жыў у мяне. Аднойчы ён вярнуўся ўзрадаваны з бутэлькай віна — яго прынялі ў пажарную каманду. У той вечар мы сядзелі з ім на кухні і шчыра гаманілі. І тады нечакана Арцём пачаў прасіць у мяне прабачэння за тое, што выгнаў Кір'яна:

— Як бы там ні было, а ён жа твой муж, вунь і двое дзетак у вас. Толькі ведаеш, Каця, не мог я яму дараваць такое — ён жа сексот. Ён загубіў усю нашу сям'ю: маці, бацьку, мне паламаў жыццё. Ды хіба ён цябе ашчаслівіў?

— Пра што ты гаворыш, Арцём! — запярэчыла я.

Арцём памаўчаў, зацягнуў цыгарку, а потым расказаў мне адзін даўні выпадак, з-за якога ён стаў ненавідзець Кір'яна:

— Памятаеш, Каця, аднойчы на вячорках (гэта было яшчэ да нашага высялення) Мікола Панкратаў пад гармонік расказваў вершык-прыпеўку:

*Дзве гармоні, адзін бубен*
*У калгасе жыць не будзем.*

Дык праз тыдзень тады за Міколам прыехалі два чэкісты, і ён некуды знік. Мы, хлопцы, пасля доўга гадалі, хто на яго накрэмзаў данос. Перабралі ўсіх, хто быў на вячорках, і сышліся на тым, што гэта справа рук Кір'яна. У мяне тады такое зло кіпела, што я гатовы быў яго задушыць уласнымі рукамі. А ён яшчэ, мярзотнік, пачаў да цябе заляцацца.

Пасля на канале я сустрэўся з Міколам Панкратавым. Ён мне таксама гэта пацвердзіў. Той жа міліцыянт з Высокага хутара, што тады і мне на месцы збору раскулачаных шапнуў пра Кір'янаў абрэз і данос, яму таксама намякнуў, па чыім стуку яго гоняць на Салаўкі. Між іншым, з тым міліцыянтам мы яшчэ неяк на Асінторфе пару месяцаў гарбаціліся задоўга да таго, як ён падаўся ў лягавыя. І ведаеш, што ён мне яшчэ расказаў пра Кір'яна? Аднойчы за бутэлькай самагонкі Кір'ян перад ім выхваляўся: "Гэтыя кулакі Грыбоўскія запомняць мяне на ўсё жыццё. Я ім пакажу, хто я такі... Уяўляеш, мне падабаецца іх дачка, а яе брат мяне ў каршэнь з хаты... Ну, я яму яшчэ адпомшчу... падсуну ў страху свой іржавы абрэз і стукну, куды трэба, — і загрыміць ён са старым Грыбам на Калыму, а Каця мне дастанецца, дзявацца ёй не будзе куды..."

Арцём задыміў цыгаркай і неяк пільна зірнуў на мяне:

— Памятаеш, Каця, тады пры развітанні я цябе папярэджваў: бойся Кір'яна, калі вернешся ў вёску...

Цяпер і я прыгадала той вечар, калі Кір'ян адкрыў мне страшную тайну аб заўтрашнім высяленні нашай сям'і. Вось, аказваецца, адкуль ён пра гэта ведаў... Дзеля таго, каб ажаніцца са мной, ён па-вар'яцку ўзвёў такі страшэнны паклёп на ўсю нашу сям'ю, а потым апутаў мяне страхам...

На чарговым прыпынку ў вагон з шумам заляцела стайка дзяцей-школьнікаў, якія ехалі купацца на вадасховішча. І калі яны расселіся і крыху супакоіліся, спадарожніца Паўла Іванавіча азірнулася на іх і прадоўжыла:

— Брат настойваў, каб я развялася з Кір'янам. Але ж у мяне не было ніякага шлюбнага пасведчання. У той час, калі мы з ім сышліся, я не магла паказвацца на вочы начальству ў сельскім Савеце, бо мяне маглі зноў адправіць у тую Сібір. А пазней заводзіць нейкую даведку аб шлюбе, каб тут жа яе скасаваць, я палічыла марнай тратай часу. Так я амаль паўвека і пражыла і не ўдава, і не замужняя жанчына, хоць у мяне за сцяною, у адной кватэры, і жыве мой былы муж.

— Дык ён вярнуўся да вас пасля таго выгнання?! — здзівіўся Павел Іванавіч.

— Бяда, як кажуць, адна не ходзіць, — працягнула свой сумны расказ кабета. - Пэўна, праз паўгода, як брат Арцём стаў пажарнікам, у навальнічную ноч загарэлася стайня ў прыгараднай вёсцы. Яго каманду адправілі туды... Як пасля казалі пажарнікі, Арцём некалькі разоў кідаўся ў ахопленую полымем стайню, ратуючы коней, пакуль не рухнула страха... З таго пажару Арцём не вярнуўся...

Зноў кабета выцірала слёзы, а Павел Іванавіч цяпер ужо ў думках дакараў сябе за тое, што схіліў яе да такога цяжкага ўспаміну.

— Вось пасля пахавання Арцёма Кір'ян і вярнуўся. Ён пасяліўся ў адным пакоі, а я з дзецьмі — у другім. І на сваю дачу ён не пускаў ні мяне, ні дзяцей. А на мінулым тыдні паехаў да сястры ў вёску, ды там і злёг, і, відаць, надоўга, бо яна патэлефанавала, каб я з'ездзіла на дачу, паліла градкі. Стаіць жа такая спёка, згарыць усё, што ён там вясною панаторкаў. Я ж за мінулыя гады і забыла, дзе тая яго дача і як да яе дабірацца.

Электрычка набліжалася да прыпынку. Але ў гісторыі, расказанай спадарожніцай Паўла Іванавіча, было яшчэ шмат нявысветленых абставін. І першае, што зацікавіла Паўла Іванавіча: ці змяніўся гэты чалавек пасля таго шокавага стрэсу, які яму ўчыніў брат кабеты Арцём?

— Не, ніколечкі, — працягнула яна паніклым голасам. — Нават, наадварот, ён стаў больш нахабным, праўда, больш скрытным, бо час ужо быў іншы. Калі пайшоў на пенсію, дык у той дзень, калі яму не выпадала накрэмзаць на каго-небудзь нейкі данос, Кір'ян адчуваў сябе хворым, ён, як зацкаваны звер, кідаўся з кута ў кут па сваім пакоі. Яго ўжо цураліся ўсе знаёмыя і суседзі, але і тады ён пасылаў на іх допісы ў розныя інстанцыі: на каго ў ЖЭС, на каго ў міліцыю, а на каго і ў КДБ. Уявіце сабе і такое... — тут кабета сумелася, пэўна, раздумвала — гаварыць пра гэта ці не. А потым усё ж наважылася: — Аднойчы сын прыйшоў з інстытута пахмурны і ўсхваляваны. Я пытаюся: "Што здарылася, Ваня?" — "Ды так, глупства", — адказвае. Ну, я не стала лезці з роспытамі. А сын за абедам дастаў з кішэні нейкую паперку і падае мне: "На, пачытай, можа, штосьці заўважыш знаёмае?" Я ўзяла, чытаю. І маё сэрца так закалацілася, а ўваччу так пацямнела, што я думала — вось-вось страчу прытомнасць. Я пазнала почырк Кір'яна. Гэта быў яго данос у бюро камсамольскай арганізацыі інстытута. Кір'ян паведамляў, што Іван Батрак з сям'і антысаветчыкаў, што яго дзед і дзядзька былі актыўнымі ўдзельнікамі банды Булак-Балаховіча... Так Кір'ян помсціў роднаму сыну, што ён не заступіўся за бацьку пры Арцёмавай з ім разборцы.

Цяпер, калі кабета назвала прозвішча свайго былога мужа, Павел Іванавіч успомніў гэтага дачніка з суседняга каапіератыва. З выгляду ён быў як грыб-смарчок: невялікі ростам, лысы і плюгавы, хадзіў неяк бокам, правым плячом наперад, мабыць, таму, што левае ў яго было вывіхнутае ці перабітае. Маленькія яго вочкі хаваліся пад насупленымі бровамі, якія тапоршчыліся, нібы калючкі ў вожыка. І размаўляў з людзьмі, гледзячы ўніз, пэўна, таму, што яму было сорамна глядзець ім у вочы, бо перад кожным ён адчуваў сваю віну.

Тым часам электрычка спынілася на іх прыпынку. Павел Іванавіч расказаў сваёй спадарожніцы, як ёй прайсці кароткім шляхам да дачы, а яна, пакуль ішлі да пасёлка, закончыла свой расказ:

— Ваню не выключылі з інстытута, дзякуй Богу, той час мінуў. Але ні вучыцца там, ні жыць пад адным дахам з такім бацькам ён не мог. Сын на канікулах паехаў на цаліну, ды так там і застаўся. Калі ён ад'язджаў на тую цаліну, Ваня прамовіў такую фразу: "Знаеш, маці, мой бацька — сексот". Памятаю, што сексотам назваў Кір'яна і Арцём. Толькі вось я і цяпер не ведаю, што гэта такое — сексот. Мне падаецца, чуе мая душа, што гэта нешта агіднае. А як вы думаеце? — спыталася кабета ў Паўла Іванавіча.

— Нават горш, — адказаў ён на развітанне.

ФУТБОЛ

# «Динамо» и БАТЭ подарили болельщикам футбольный праздник

*В этом году сразу две белорусские команды — минское "Динамо" и борисовский БАТЭ — сыграют на групповой стадии еврокубков.*

## СОПЕРНИКИ

В квартете "Н" группового раунда Лиги чемпионов-2014/15 **БАТЭ** *(кстати, борисовский клуб в этом сезоне уже заработал в Лиге более 11 миллионов евро)* предстоит сразиться с португальским "Порту", украинским "Шахтером" из Донецка и испанским "Атлетиком" из Бильбао.

**Минское "Динамо"** в осенней стадии Лиги Европы в группе "К" сыграет с итальянской "Фиорентиной", греческим ПАОКом и французским "Генгамом".

## КОГДА ИГРАЮТ?

### ЛИГА ЧЕМПИОНОВ

**17 сентября (среда)**
"Порту" — **БАТЭ**
"Атлетик" — "Шахтер"
**30 сентября (вторник)**
"Шахтер" — "Порту"
**БАТЭ** — "Атлетик"
**21 октября (вторник)**
**БАТЭ** — "Шахтер"
"Порту" — "Атлетик"
**5 ноября (среда)**
"Шахтер" — **БАТЭ**
"Атлетик" — "Порту"
**25 ноября (вторник)**
**БАТЭ** — "Порту"
"Шахтер" — "Атлетик"
**10 декабря (среда)**
"Порту" — "Шахтер"
"Атлетик" — **БАТЭ.**

### ЛИГА ЕВРОПЫ

**18 сентября (четверг)**
ПАОК — **"Динамо"**
"Фиорентина" — "Генгам"
**2 октября (четверг)**
"Генгам" — ПАОК
**"Динамо"** — "Фиорентина"
**23 октября (четверг)**
**"Динамо"** — "Генгам"
ПАОК — "Фиорентина"
**6 ноября (четверг)**
"Генгам" — **"Динамо" Мн**
"Фиорентина" — ПАОК
**27 ноября (четверг)**
**"Динамо"** — ПАОК
"Генгам" — "Фиорентина"
**11 декабря (четверг)**
ПАОК — "Генгам"
"Фиорентина" — **"Динамо".**

## ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

*Наставники БАТЭ и "Динамо" дали оценку своим соперникам.*

### Александр ЕРМАКОВИЧ, главный тренер БАТЭ:




— Ощущения по поводу результатов жеребьевки двоякие, — признался он клубной пресс-службе. — С одной стороны, нам очень хотелось, чтобы в нашей группе был хотя бы один нынешний гранд европейского футбола. Матчи с ним стали бы для наших болельщиков вывеской, создали бы дополнительный ажиотаж. Увы, наши надежды не сбылись. С другой стороны, и "Порту", и "Шахтер", и "Атлетик" — очень сильные команды. Но это не значит, что мы собираемся довольствоваться малым и смирились с незавидной ролью статистов. Напротив, мы намерены брать очки и радовать болельщиков добротной игрой, особенно в домашних поединках.

— **Кого считаете фаворитом?**

— Наверное, все-таки "Порту". Хотя бы в силу того, что эта команда является завсегдатаем Лиги чемпионов. К тому же португальцы сеялись из первой корзины. Вдобавок они обладают богатейшим опытом, еще не так давно выигрывали Кубок чемпионов.

— **Какую роль отводите БАТЭ?**

— Будем пытаться бороться за выход из группы. Если такую задачу не ставить, то зачем вообще было прикладывать столько сил, чтобы оказаться в столь престижной компании?




### Владимир ЖУРАВЕЛЬ, главный тренер «Динамо»:

— Это будет наш первый опыт выступления в групповом турнире. Нам выпали интересные, достойные, известные в Европе клубы: "Фиорентина", ПАОК, "Генгам". Конечно, интересно со всеми ними сыграть. Будем серьезно готовиться. Мы с уважением относимся к конкурентам, потому что слабых оппонентов в групповой стадии попросту нет.

**Алесь СИВЫЙ.**

ДАТА

# Легендарным «Песнярам» — 45!

## *Людзі сыходзяць, а брэнд застаецца*

*Ансамбль "Песняры", якому 1 верасня споўнілася 45 гадоў, — унікальная з'ява на айчыннай эстрадзе. Хоць бы таму, што нават пасля свайго распаду калектыў да гэтага часу сілкуе творчасць музыкантаў цэлых трох (!) ансамбляў. І ўсе яны так ці інакш — "Песняры"! Вось якую магутную музычную базу заклаў Мулявін, стварыўшы зусім непаўторны стыль, заснаваны на славянскай, "каранёвай" вакальнай і выканальніцкай традыцыі.*

*Наша гутарка — з адным з заснавальнікаў першага ВІА "Песняры", жывой легендай групы "Беларускія Песняры"* ***Уладам МІСЕВІЧАМ.***



### Хто на што мае права

— Давай высветлім, што мы адзначаем. Мулявіна няма і "Песняроў" ужо таксама няма. Усе прыйшлі да такой высновы — ну хіба што акрамя некаторых "экстрэмістаў", — *сказаў Улад Людвігавіч.* — Так што калектывы святкаваць гэтую дату не маюць права. Мы з табой проста можам выпіць за Валодзю, за "Песняроў", таму што 1 верасня споўнілася 45 гадоў брэнду. Так, мы, сённяшнія "Беларускія Песняры", існуём на платформе першых, на базе "Песняроў" залатой эпохі Мулявіна. Але юбілей не наш, юбілей, паўтараю, брэнда. І то толькі на будучы год. А 45 гадоў таму, 1 верасня 1969-га нам, па сутнасці, афіцыйна дазволілі спяваць — мы ж былі інструменталістамі, а не прафесійнымі вакалістамі, тады гэта мела вялікае значэнне. І вось у той дзень мастацкі савет дазволіў "Лявонам" падаць заяўку на рэгістрацыю новай назвы — "Песняры".

**— Жыццё зараз разнесла вас па розных гарадах. Як часта сустракаецеся цяпер?**

— Па праўдзе кажучы, не ў кожнага з нас ёсць такая патрэбнасць. А, напрыклад, маё знаходжанне побач з Барткевічам, дык увогуле, баюся, мяне скампраметуе.

**— Нядаўна ў Мінск прыязджаў Анатоль Кашапараў. Працаўладкоўвацца?**

— "Беларускія Песняры" — калектыў, які склаўся даўно. Ды я ўпэўнены, што Анатолю аднаму лепш, больш атрымлівацьбудзе. І — дай Бог. І ён, і Барткевіч маюць абсалютнае права выступаць як салісты ансамбля "Песняры" без усялякіх папярэдніх умоў. Астатнія — я прашу прабачэння.

**— Вы маеце на ўвазе дзяржаўны ансамбль "Песняры"? Яны, дарэчы, звярталіся калі-небудзь да вас, каб параіцца — усё-такі вы, "Беларускія Песняры", самая моцная галіна ад бацькоўскага, так бы мовіць, асноўнага ствала.**

— Ну што вы, яны вышэй за гэта. Зрэшты, яшчэ па просьбе Пал Палыча Латушкі мы дасягнулі пэўных дамоўленасцяў не ваяваць адзін з адным. Суіснуем.

**— Вы аддзяліліся ад ансамбля яшчэ пры жыцці Мулявіна — і даволі жорстка. З пазіцыі сённяшняга дня, гэта было правільнае рашэнне?**

— У пачатку 1990-х песні нашай маладосці зноў сталі запатрабаваныя, папулярныя. "Самацветы", "Сіняя птушка", усе зноў загучалі ў эфіры. А мы сядзім. Шурык Дзямешка тэлефануе з Масквы: "Давай збірацца!" А мы без работы. Ідуць гады. Спела жаданне забыць музычнае мінулае.

**— Амаль усе знакамітыя, значныя музычныя групы па той ці іншай прычыне прайшлі праз перыяд жорсткага разлому.**

— Вядома. І ў нас, паверце, прычына была важкая. Хоць гледачам яна была не бачная. Але мы яе ведалі, як ніхто іншы. Была спроба адраджэння - мінкульт асабліва настойваў аб вяртанні мяне і Дайнэкі ў рады калектыву, прапанаваўшы мне стаць дырэктарам "Песняроў". Але менш чым праз год адбыўся вядомы ўсім канчатковы раскол. Нарэшце ў 1998 годзе ў Мінюсце зарэгістравалі новую назву — пры жывым Мулявіне называцца "Песнярамі", натуральна, было нельга. Хоць мы, чатыры заслужаныя артысты — Дайнэка, Пеня, Дзямешка і я, мы мелі права аспрэчыць назву, у Мулявіна нічога не было зарэгістравана. Але пайсці на гэта, вядома, не маглі.

> **ДАРЭЧЫ...**
>
> *Першы "Залаты дыск" фірмы "Мелодыя" за вялікі ўклад у стварэнне грамзапісаў, прысвечаных жыццю і дзейнасці правадыра рэвалюцыі, быў прысуджаны Цэнтральнаму музею У.І.Леніна. Другі — ВІА "Песняры". Зараз "Залаты дыск" захоўваецца ў Белдзяржфілармоніі ў музеі Уладзіміра Мулявіна.*
>
> *Першымі пафасную песню "І Ленін такі малады" запісалі "Песняры", але партыйным чыноўнікам іх манера выканання падалася занадта вольнай.*
>
> *У 1976 годзе калектыў першым з ансамбляў папулярнай музыкі СССР ажыцявіў гастрольны тур па ЗША.*
>
> *За 2-мільённы тыраж пласцінкі "Песняроў" кожны ўдзельнік групы атрымаў усяго па 12 рублёў.*
>
> *Песня "Вологда" ў выкананні "Песняроў" да гэтай пары гучыць пры прыбыцці ў Волагду і адпраўленні з Волагды фірмавага хуткага цягніка "Вологодские зори" (цягнік № 59 Волагда — Масква, цягнік № 60 Масква — Волагда), а таксама фірмавага пасажырскага цягніка "Белыя ночы" (цягнік № 617 Волагда — Пецярбург, цягнік № 618 Пецярбург — Волагда).*

### А Машэраў чакаў «Александрыну»!

**— У самы росквіт творчасці — усе маладыя, адчайна прыгожыя, таленавітыя — вы адчувалі сваю ўнікальнасць?**

— Мабыць, не. Усё звалілася так нечакана: прэмія ў Маскве, вядомасць... Шчыра кажучы, мы былі так паглынуты працай... Мы разумелі, што новая слава старую любіць: спыняем працаваць і слава знікае як дым, як ранішні туман. Галава была занята, што будзем спяваць заўтра, а не славай. У Валодзі, натуральна, яна больш за ўсіх балела. Тым больш што часам раздаваліся галасы: "Нешта вы хлопцы затрымаліся на алімпе, там так доўга не жывуць". Мы адчувалі, што асяродак з "добразычліўцаў" толькі і чакае нашага правалу. Так і даехалі да першага юбілею ў 1979 годзе.

**— Па расказах ведаю, што адзначалі юбілей 10-дзённым марафонам у Палацы спорту. Як толькі вытрымлівалі па два канцэрты ў дзень: раніцай і вечарам?**

— І квіткоў не было! Трэба сказаць, з тагачасным міністрам культуры Міхневічам у "Песняроў" склаліся не вельмі добрыя адносіны, міністр быў вельмі складаны чалавек. Валодзя папрасіў яго запрасіць на канцэрт Пятра Міронавіча Машэрава, і вось ужо апошні дзень, а Машэрава на канцэрце няма і няма. Тады Валодзя сам тэлефануе ў прыёмную першага сакратара ЦК КПБ: ён ведаў і сакратара, і памочніка. А яму адказваюць не без сарказму, што Пётр Міронавіч чакае вашага запрашэння — што вы так затрымаліся? І Мулявін усё зразумеў. І тут жа паслаў запрашэнне, і ўвечары Пётр Міронавіч сядзеў насупраць сцэны ва ўрадавай ложы. Мы бачылі, як Машэраў зняў пінжачок, зручна размясціўся, расслабіўся, выпіў 50 грамаў каньячку. Памочнік да нас звяртаўся за кулісы ў перапынках: "Усё нармальна, хлопцы. Усе песні падабаюцца. А "Александрына" будзе?" А мы яе ўжо не ставілі ў канцэрты — старая, 10 гадоў! Ну, а тут абавязкова "Александрына".

Пасля юбілею нам сталі рыхтаваць дакументы на званні: Мулявіна — на народнага, нас, пяць музыкантаў, — на заслужаных артыстаў. І тут ускалыхнулася хваля "добразычліўцаў": пайшлі ананімкі. Атрымлівалася, што ў калектыве "Песняроў" з 8 чалавек — 6 будзе са званнямі. А ў сімфанічным аркестры толькі два... Але пра гэта, на шчасце, мы даведаліся некалькі пазней. А перад гэтым былі кватэры, машыны. Тады так жылі людзі — усё па рашэнні "зверху". Для нас арыенцірам па быце былі футбалісты мінскага "Дынама", яны таксама былі ў фаворы. Адзінае, у чым мы ім саступалі, у "Песняроў" не было стала заказаў, прадуктовых пайкоў. Але тут Муля быў непахісны: не пайду прасіць кавалак хлеба! Кватэры для нас выбіваў, а прадукты — спраўляйцеся самі. Праўда, калі я развёўся, другую кватэру ўжо ад дзяржавы не атрымаў, сам купляў.

**— Лёс складаны, затое сапраўдны...**

— Заўсёды стараўся не хлусіць. Прыкладаю да гэтага неймаверныя намаганні.

### Начальства доўга разбіралася з пачуццямі

**— Хто "Беларускім песнярам" піша песні цяпер?**

— Аверын, Кацікаў і бліскучы аранжыроўшчык Пугачоў, наш мазгавы цэнтр. У нас няма мастацкага кіраўніка. За творча-кампазітарскую частку адказвае Аверын, за якасць вакалу — Дайнэка. А я — проста старэйшы.

**— Захавальнік. А галава не баліць, каго ўзяць у калектыў з маладых, каго кім замяніць, калі давядзецца?**

— Не. Ужо позна. Колькі Бог адмерае, столькі будзем працаваць. Публіку ўжо не падманеш. А то атрымаецца яшчэ адзін эксперымент, як з дзяржансамблем.

**— А бывала, што вы прыязджаеце ў горад, а нядаўна там выступалі дзяржаўныя "Песняры"?**

— І не раз. І народ ідзе ўсё роўна. Мы, вядома, захавальнікі традыцый, але хочацца эксперыментаваць. Часам робім гэта насуперак пажаданням гледача. Аднойчы паказалі па Першым канале "Белавежскую пушчу", перапрацаваную смела, — выконвалі Дайнэка і Падольская. Пахмутава ледзь прытомнасць не страціла. Адны былі ў захапленні, іншыя ледзь не рыкалі на нас, як на злачынцаў. Але што ж "нудзіць" у адным і тым жа выглядзе гэтую песню? Трэба паказваць новае.

**— Колькі канцэртаў трэба правесці ў месяц, каб накарміць сябе і сям'ю?**

— З улікам нашых падвоеных маскоўска-мінскіх выдаткаў мінімум дзесяць, а пажадана пятнаццаць. Але тады фактычна мы заняты амаль штодня — адзін канцэрт займае два-тры дні па перамяшчэнні, па лагістыцы. Далёкі Усход Расіі, Штаты, Францыя, Казахстан — Назарбаеў нас любіць... Як і Тулееў, губернатар Кемераўскай вобласці. Ігралі на двух выбарчых кампаніях генерала Громава. Ды і ў Мінску нас ніхто, дзякуй Богу, цяпер не крыўдзіць. Хоць адзін канцэрт адменены быў — самы першы пасля "выгнання" ў Расію. У мяккай форме папрасілі перанесці. Начальства разбіралася з пачуццямі. Але калі ўбачылі, што мы канцэрты робім сумленна — і перад гледачамі, і перад адказнымі людзьмі — усё наладзілася.

**— Сапраўды, чаму вы зарэгістраваліся ў Маскве, а не ў Мінску?**

— Цяпер нас папракаюць у гэтым: не патрыёты, кінулі Мулю, Беларусь. Але мы сышлі з калектыву па важкай прычыне. А калі захацелі зарэгістраваць у Мінску "Беларускія Песняры" як прыватную фірму, нам адмовілі. Мы ўсё зразумелі і з'ехалі ў Маскву. Гэта была балючая працэдура: зняць офіс, студыю наладзіць...

**— Улад, вам падабаецца помнік Уладзіміру Мулявіну, які збіраюцца ставіць у Екацярынбургу? Вы, напэўна, бачылі, эскіз?**

— Мне вельмі падабаецца надмагільны помнік. Схоплена сутнасць асобы. А да новага помніка я свае пачуцці яшчэ сфармуляваць не магу. Але мне здаецца постаць некалькі фрывольная, не вельмі мужчынская. Хоць ёсць і рамантызм...

**Алена МАЛОЧКА.**

НА ЗАМЕТКУ

## Пры паніжаным ціску — далоў мяту



І ў такой лекавай расліны, як мята, ёсць свой шкодны бок. Гэта, праўда, не азначае, што трэба ўвогуле забыцца на чай з непаўторным водарам. Прыгадаем, што мята найперш — даволі моцны антысептык, яна валодае процізапаленчай і болесуцішальнай якасцямі. Яе ўздзеянне распаўсюджваецца на ўсе віды патагенных бактэрый страўніка. Каб зняць страўнікавыя колікі, дастаткова дадаць у звычайную заварку крыху мяты або замест чаю папіць збор з мяты, мацярдушкі і зверабою ў роўных частках (тры кубкі ў дзень). Перад цёплым мятным настоем адступаюць ікаўка, млоснасць, нястраўнасць і нават алкагольнае атручэнне. Аднак мяту не варта працяглы час ужываць людзям з паніжаным ціскам. Паніжаны тонус вянозных сасудаў можа справакаваць абвастрэнне варыкознага расшырэння вен. Мята проціпаказана пры цяжарнасці, спазмах у бронхах і тым, хто праходзіць курс гамеапатыі.



КРИК О ПОМОЩИ!

## Мы верим, что у нас есть шанс спасти ребенка

Добрый день, "Народная Воля"! Пишет Вам семья Горошко. Обращаемся к Вам с просьбой о помощи.

В нашей семье год назад родилась доченька Маргарита. В три месяца у Маргариты обнаружили лейкоэнцефалопатию. Данное заболевание поражает головной мозг, ребенок теряет все двигательные навыки, зрение и слух, и может привести к летальному исходу. Врачи связывают данное заболевание с генетикой. Мы сделали ряд анализов, которые опровергли данное суждение, значит (и мы в это очень верим), у нас есть шанс спасти ребенка.

Сейчас нашей девочке один год и пять месяцев, она не ходит, не сидит, не ползает и даже не держит головку. Мы хотим видеть нашу девочку здоровой, поэтому просим помощи у Вас для проведения более точного обследования и дальнейшей реабилитации за границей. С клиникой мы уже определились, оформляем необходимые документы, но, как зачастую бывает в таких ситуациях, на лечение за границей не хватает средств.



Если кто-то может и хочет помочь нашей девочке, на имя отца Маргаритки — Горошко Владимира Яковлевича — открыт счет для перечисления средств:

**ОАО "Беларусбанк" филиал 802/802 транзитный счет 3819382109656 на счет 01207075 (белорусские рубли)**

**ОАО "БПС-Сбербанк" Центр банковских услуг №101 код 369 № счета 2464737 (доллары США)**

**Юлия ГОРОШКО (8-029-889-45-92 — МТС).**

**P.S.** ***От всей души огромное спасибо всем добрым людям, которые откликнутся на нашу просьбу.***

**Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск,
вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс
(017) 3286871.
Тэл.рэкламнага
аддзела:
(017) 3286609,
3286906
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info**

ISSN 2071-9647




**Падпісныя індэксы: 63222 — для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 — для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 03.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 1.09.2014 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 26050 экз. Заказ №3671.**